ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

1•2016
СТУДЗЕНЬ

Хадзем адсюль, а то кінем цень на нашу фірму…

Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.


Актуальныя
Карыкатуры
Аляксандра
Каршакевіча


ІЛЬГОТЫ
Бар
Масаж
Басейн
Казіно
Більярд
Боўлінг
Сауна
Турызм
Агра
АКоршакевич'15


Там нешта нячыста!
Па газонах не хадзіць!
АКоршакевич'15


TV
АК


Прабачце, будзе перадавацца «ненадлежащая» рэклама…


Э-не! На свае вочы бачу, які тэрмін захавання прадуктаў!..

Міхась МІРАНОВІЧ




## Вечная загадка



Загадка вечная –
Жыццё людское
Ад нараджэння
І да забыцця.
Каб зразумець,
А што ж яно такое,
Табе не хопіць
Цэлага жыцця.

## Жыццё праходзіць




Хадзе жыцця
Не перашкодзіць.
І спрабаваў –
Ды немагчыма!
Шкада мне,
Што яно праходзіць,
Тым болей,
Што праходзіць міма.

## Ці далёка адышоў?

Калісьці Дарвін
Да таго прыйшоў:
Ад малпы, кажа,
Чалавек паходзіць –
Дык іншым разам
Паглядзець не шкодзіць:
А як далёка
Ад яе пайшоў?




## Бяспамяцтва

Над гэтым вы
Задумайцеся, людзі:
Куды бяспамяцтва
Нас прывяло?
Не можам ведаць,
Як далей што будзе,
Калі не знаем,
Як раней было!..

## Некалі

Можна нават
Чорта палюбіць,
Покуль пеўні
Не пракукарэкалі.
Усё можна
Некалі зрабіць,
Ды чамусьці некалі
І некалі!..



## Чырвоная кніга

Нешта нам не спіцца,
Нешта нам не есца –
Што нясе з сабою
Дваццаць першы век?
У Чырвонай кнізе
Ёсць пакуль што месца,
Хай бы там зрабілі
Запіс: «Чалавек»!

## Святло і агонь

Калісьці – пры лямпах,
А то й – пры лучыне,
Навуку жыцця
Мае продкі вучылі.
Наш час перад імі
Я не бараню –
Святла зараз болей,
Ды меней агню.

*г. Віцебск.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Вераб'і збіраюць зерне – п'яніцы – бутэлькі.

Хадзіў у госці – наеўся толькі дома.

Ліса цікавала мыш – паляўнічы лісу.

Піў з нагоды – выпілі з нягоды.

Збіраўся сябру насаліць – самому свінню падклалі.

Траўніца ад усіх хвароб людзей лечыць – сама да ўрачоў ходзіць.

Самагоншчык гандляваў самагонкай – сам ужываў гарэлку толькі з крамы.

Заснуў у рэстаране за сталом – прачнуўся ў парку распранутым.

Садзіў бульбу – вырасла лебяда.

П'яным купляў індыка – дамоў пеўня прынёс.

Пабег за двума зайцамі – начаваў у лесе, бо заблукаў.

Быў адналюб – тройчы на адной жанчыне жаніўся.

У гарадскую лазню схадзіў – дома ў ванне памыўся.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Мы гатовыя смяяцца з усяго. Але пры адной умове: калі гэта адбываецца не з намі.

*Уіл Роджарс, амерыканскі пісьменнік і акцёр*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Валянціны КАСЯК.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




*З 65-годдзем Міхася Паўлавіча ПАЗНЯКОВА – вядомага беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка і мовазнаўцу, адметнага шматграннасцю свайго таленту. Творчая біяграфія яго не абышлася і без «Вожыка» – два гады пісьменнік узначальваў часопіс сатыры і гумару. Сёння на старонках выдання ён з'яўляецца пераважна як аўтар «Калючыка»: яго добрыя і павучальныя дзіцячыя вершы вядомыя ўсім маленькім «вожыкаўцам». Зычым Міхасю Паўлавічу моцнага здароўя, творчых поспехаў і аптымістычнага настрою!*

## Думкі ўголас

Адны глядзяць на жыццё скрозь пальцы, іншыя – скрозь краты.

Ці варта імчаць на злом галавы, каб потым у роспачы біцца ёй аб сцяну?

Не заўсёды ў пчаляра салодкае жыццё.

Каб вывесці браканьераў на чыстую ваду, работнікам рыбаахові часам даводзіцца сядзець у мутнай вадзе.

Таму, хто ідзе напралом, здзейсненае часта вылазіць бокам.

Несумненна, варта паламаць галаву дзеля таго, каб затым не наламаць дроў.

Ні ў якім разе нельга апускаць рукі. Асабліва тады, калі вашае жыццё вісіць на валаску.

Таму, у каго вецер у кішэнях гуляе, часта даводзіцца скакаць пад чужую дудку.

Іншы разумнік шукае дурня, каб зрабіць яго казлом адпушчэння.

Калі ў нахабніка загаварыла сумленне, ён ад здзіўлення страціў дар мовы.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

# Вандроўнік



Турысты кожны дзень па візы
Стаяць у даўкай таўкатні.
А мне лупаты тэлевізар
Усе вандроўкі замяніў.
Ляжу нязрушна на канапе
З нязменным пультам у руцэ.
То я гуляю па Анапе,
То муху ўжо лаўлю цэцэ.
То з хваль успененага Ніла,
Узрушаны, раскрыўшы рот,
Цягну за лапы кракадзіла –
Не страшна, хоць ён
жываглот!
А вось, надзвычай сарамлівы
(Аж бачыць тое не магу),
Плыву з дзяўчатамі ў заліве,
За імі, голымі, бягу.
Забыў пра страхавы я поліс
І паліто не прыхапіў –
Нагою босаю на полюс,
Канал змяняючы, ступіў.
Ад шчасця не знаходзіў
месца,
Ажно узвыў на ўвесь пакой,
Калі вяршыню Эверэста
Пакратаў горда я рукой.
А ўжо, як браў вачамі Месяц,
Тады трымцеў да самых жыл.
Адчуў, што ногі мае месяць
Зляжалы за стагоддзі пыл.
Уткнуўся моўчкі ў тэлевізар –
І ты, як кажуць, на кані!
І не спатрэбіцца па візу
Стаяць у даўкай таўкатні.







АБАЖУР – прыхільнік, кавалер.

КЛУБЕНЬ – аматар хадзіць па клубах.

МІКРАКОСМ – зусім невялічкі каўтун.

РЭЗЕКЦЫЯ – занадта вострая на язык дзяўчына.

ФАРСУНКА – дзяўчына, якая любіць моднічаць.

СЕРАДНЯК – сфера, куды трапляюць згубленыя рэчы.

**Ксенія ПІЎНЕВА,**
*г. Мінск.*

Натхненне – гэта не селядзец, які можна засаліць на многія гады.

*Іаган Вольфганг Гётэ, нямецкі паэт*






Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# Мужчыны з Марса, жанчыны з Венеры

Багі Алімпа Марс і Венера завялі звычку кожнай зімой сустракацца ў розных краінах свету. Там яны ладзілі рамантычныя вячэры, дзяліліся апошнімі навінамі і размаўлялі пра ўзаемаадносіны паміж мужчынамі і жанчынамі ў той дзяржаве, на тэрыторыі якой яны апынуліся. У апошні раз месцам спаткання багоў была абрана Беларусь.

...У сталічны рэстаран увайшоў высокі прыгожы мужчына ў чорным касцюме. Пінжак, здавалася, адразу шылі на ім, настолькі ідэальна ён сядзеў. Да госця адразу падбег афіцыянт, правёў яго да свабоднага століка, паклаў меню.

Праз хвілін дзесяць у дзвярах з'явілася маладая бландзінка ў бліскучай сукенцы, якая выгадна падкрэслівала ўсе яе жаночыя вартасці. Пра такіх дзяўчат звычайна гавораць «кроў з малаком». Маладзіца, заўважыўшы свайго кавалера, пайшла да яго так грацыёзна, нібы сама пантэра.

– Прывітанне, Венера. Добра выглядаеш, – Марс падняўся, дапамог даме ўладкавацца за сталом.

– Прывітанне, даражэнькі. Новы касцюм? Шыкоўны, мне падабаецца, – з самай прыемнай усмешкай павіталася багіня прыгажосці.

– Я вось зараз тут сядзеў і думаў, а ці здарыцца калі-небудзь так, што мне не давядзецца цябе чакаць? Гэтая жаночая непунктуальнасць заўсёды раздражняе, – незадаволена адзначыў бог вайны.

Венера пасля такіх слоў закаціла вочы, цокнула языком і прамовіла:

– Запомні адзін раз і назаўжды: кожная дзяўчына мае права крышачку спазніцца. Ды і чаго скардзіцца? Ты ж не гадзіну тут прасядзеў. Лепш зрабі заказ. Я хачу сёння шампанскага і які-небудзь смачны дэсерт.



На іншую рэакцыю Марс і не разлічваў, таму проста паклікаў афіцыянта, працягваючы слухаць сваю спадарожніцу.

– Ты падрыхтаваўся да нашай сустрэчы? Гатовы паразважаць, хто больш стаpанны, руплівы, клапатлівы і рознабакова развіты – беларускія мужчыны ці жанчыны? – хітра прыжмурыўшы вочы, запытала багіня прыгажосці.

– Канешне! За каго ты мяне прымаеш? – нібы пакрыўдзіўся бог вайны. – Я нават звярнуўся ў Белстат у аддзел кіравання статыстыкі ўзроўню жыцця насельніцтва і абследаванняў хатніх гаспадарак. Усё выведаў пра мужчын гэтай краіны. Цяпер яны перада мною як на далоні.

– Не паверыш, але я таксама ўсю неабходную інфармацыю, якая тычыцца беларускіх жанчын, знайшла ў гэтай арганізацыі. Тым лепш, дадзеным можна верыць, – канстатавала Венера.

– Ну, як, пачнём? Прапаноўваю высветліць, хто больш працавіты. Я лічу, што менавіта мае падапечныя. Сярэднестатыстычны мужчына ў будныя дні працуе амаль дзевяць гадзін. А што твае? – запытаў Марс.

– Мае на адну гадзіну менш. Але жанчыны завіхаюцца дома! – узрушана адказала яго суразмоўца. – На клопаты па гаспадарцы і догляд дзяцей яны штодня затрачваюць у сярэднім 4 гадзіны 36 хвілін. Акрамя таго, нават у выходныя ў іх значна менш вольнага часу – крыху больш за чатыры з паловай гадзіны. Таму працягласць рабочага дня яшчэ нічога не значыць.

– Ты сапраўды падрыхтавалася! Так, прадстаўнікі моцнага полу на хатнія справы і дзяцей адводзяць толькі 2 гадзіны 17 хвілін у дзень. Што да выхадных, то і тут твае выйграюць: у мужчын вольнага часу значна больш – 6 гадзін 16 хвілін.

– Вось бачыш! – радасна ўсклікнула Венера. – І стаім каля пліты мы значна больш часу – 1 гадзіну 13 хвілін у дзень. Гэта пры тым, што рэгулярным прыгатаваннем ежы займаецца дзевяноста працэнтаў жанчын, а мужчын, здаецца, толькі сорак чатыры працэнты. Я ўжо не гавару пра догляд дзяцей. Беларускі адводзяць на гэта цэлых 2 гадзіны 6 хвілін... Як табе такія факты?

– Не любім мы кухарыць! Нам прасцей бутэрбродаў якіх хуценька зрабіць. Вось і атрымліваецца, што на прыгатаванне ежы мужчынам хапае ўсяго 14 хвілін у дзень. Нічога дзіўнага не бачу. А вось што дзецям аддаюць толькі 38 хвілін свайго часу, то тут не паспрачаешся, гэты паказчык трэба павялічваць. Затое дзевяці працэнтам мужчын даводзіцца займацца рамонтам і будаўніцтвам, а прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва ў гэтым пункце толькі два працэнты. Плюс справы, якія тычацца асабістых аўтамабіляў, – тут ужо васямнаццаць працэнтаў маіх падапеч-

*Працяг на стар. 6.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.

ных і толькі адзін — тваіх. Што ты на гэта скажаш?

Венера надзьмула вусны, прызадумалася і неўзабаве прамовіла:

— Шчыра кажучы, нават не ведаю... Мяне вельмі здзівіла іншае. Сярэднестатыстычная беларуска (ад 20 да 54 гадоў) на навучанне затрачвае толькі сем хвілін у дзень, а на прафесійныя і іншыя курсы — усяго хвіліну. Неяк зусім мала. Я трохі расчаравалася.

— Ну і што! У мужчын гэтыя лічбы яшчэ меншыя. Чатыры хвіліны на навуку і менш за хвіліну на курсы. Тут у цябе паказчыкі хоць крышачку, але лепшыя, — вырашыў падтрымаць сяброўку Марс.

— Як лічыш, такія суадносіны можна змяніць, палепшыць? Зрабіць так, каб, напрыклад, мужчыны больш часу праводзілі з дзецьмі? — задумалася Венера.

— Кожны раз пасля нашых сустрэч пытаюся ў сябе пра гэта. І не магу даць адказ. Мяркую, што можна. Зразумела, што мужчыны і жанчыны розныя, але калі яны пачнуць дапамагаць адно аднаму ва ўсім, то тады статыстыка абавязкова зменіцца. Я ўпэўнены.

Багіня прыгажосці заўсміхалася:

— Мяне заўсёды захапляў твой жыццёвы аптымізм. Тады давай зазірнём яшчэ раз у Беларусь гадоў праз пяць, праверым, ці зменяцца паказчыкі даследаванняў Белстата. Тым больш, што мне вельмі спадабаўся дэсерт.

— Я толькі «за». Люблю сачыць за зменамі, асабліва калі яны да лепшага, — сказаў Марс, паклікаў афіцыянта і папрасіў іх разлічыць.

Прыгожая пара павольна выйшла з рэстарана і знікла. Але яны яшчэ абавязкова вернуцца. Спадзяёмся, што на наступны раз мужчыны і жанчыны Беларусі парадуюць іх больш роўнай статыстыкай.

**Размову багоў падслухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

## Біты козыр



Не гарэў Мікіта ў працы,
На ляноту ён хварэў.
Для сябе ж гатоў старацца:
«Хапунову» звычку меў.
І таму за кошт дзяржавы
Навучыўся жыць у смак:
«Заганяў» улева-ўправа,
Што ляжала абы-як.
Быў прарабам на будоўлі —
Пяць гадоў узводзіў гмах.
Працу завяршыць не здолеў,
Ды затое — пры грашах,
Бо цэмент і цэглу, блокі
Шмат каму Мікіта збыў.
Дачы ў іх аж пад аблокі
Выраслі, як грыбы.
Шыта-крыта, шыта-крыта,
Ходзіць козырам Мікіта!
Ды ягоны час мядовы
Бліснуў промнем па вадзе.
Вынес прыгавор суровы
Пракурор яму ў судзе.
І расшыта, і раскрыта —
Атрымаў сваё Мікіта!

**Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*

## Знарок не прыдумаеш

«Просьба купацца не ў ракавіне, а ў нагамыйках, інакш здымем нагамыйкі, якія пастаўлены для мыцця бялізны».

«Заўтра, 22 лютага, з 14:00 будзе адключана вада з-за нявыплаты за электраэнергію».

*(З аб'яў у інтэрнаце.)*

**Даслаў Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ,**
*г. Маладзечна.*




Малюнак Алега ПАПОВА.




Іван ШАМЯКІН

# Ахвяра тэлебачання

*(У скарачэнні)*




Была ў мяне ў Мінску яшчэ адна ўдача. Шанцавала, словам, па ўсіх лініях... Звыш усялякай меры. Калі шастаў па магазінах, сустрэў я сваю аднакурсніцу Маю Карніцкую. Цяпер у яе другое прозвішча, па мужу, але справа не ў гэтым. Дзяўчына яна была прыгожая, шыкоўная, і мы яшчэ ў акадэміі ўсе да яе патроху заляцаліся, я, вядома, не быў выключэннем, пакуль не адкрыў сваю адзіную суджаную. Дзяўчаты нашыя Маю недалюблівалі, мая Галка таксама, лічылі задавакай, кру-цёлкай. Яна такі ў калгас не паехала, стала аграномам трэста азелянення сталіцы, кветкі вырошчвае. Справа таксама патрэбная. Хіба ж не радасна, калі горад, што кветнік?

Дык вось гэта Майка, чортава лялька, пасля бурнага выяўлення радасці ад сустрэчы, кажа: «Казік, сёння ў тэатры Янкі Купалы юбілейны вечар. Увесь тэатральны Мінск збярэцца. Хадзем. Маю лішні білет. Мой жа валадар культурай кіруе, для яго білет не праблема». Хіба ж можна было ўстаяць ад такой спакусы, пабыць у акадэмічным тэатры ды яшчэ на яго юбілеі! Калі мне, палешуку, выпадзе ў другі раз такое шчасце?

...Вечар, канечне, быў цудоўны! І ўрачыстая частка. І канцэрт. Я сядзеў побач з Маяй, з другога боку ад яе – муж. Але яна, тарахцёлка, вядома ж, не мужа прасвячала, ён сам рыхтаваў гэты канцэрт, а мяне, «палескую цемру». Нахілялася раз-пораз, шаптала на вуха, каменціруючы выступленні, смяялася... І я смяяўся, бо весела ж было, хораша. І ні разу мне, дурню, не цюркнула ў затлумленую галаву, што калі чорная пушка паварочваецца на зал, міргаючы чырвоным вокам, то ўсю гэтую вясёлую размову нашу з Маяй бачаць там, у Будзілавічах нашых, не толькі мая дарагая Галіна Пятроўна, але і ўвесь саўгас. Жонка дырэктара сярод ночы з другога канца вёскі прымчала да маёй: «Ты бачыла, Галечка?» Галя раніцай на работу не пайшла – ад сораму.

Словам, было мне, можаце ўявіць. Маліўся, кляўся, на калені станавіўся: «Ды зразумей жа ты, муж яе побач сядзеў». «Чаго ж яна, кажа, да мужа ні разу не павярнулася нават?» Хоць пішы таму мужу, каб ён даведку прыслаў, пячаткай завераную. Але ж сорамна. Тыдні два наладжваў дыпламатычныя адносіны з жонкаю. Часам яна і цяпер яшчэ пляскае тым канцэртам.

І зубаскалы саўгасныя смяюцца:

– Раскажы, Лявонавіч, як цябе блакітны экранчык падвёў.

А вы мяне агітуеце – выступі на тэлебачанні. Не, прабачце ўжо. Дайце хоць, каб крыўда загаілася ды людзі забыліся на гэту тэлегісторыю.

*«Вожык» № 2, 1971 г.*






Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ і Валянціны КАСЯК.

## Міхась КАВАЛЁЎ



### Заява

«Начальніку аддзела кадраў таварыства з абмежаванай адказнасцю «Паўночнае ззянне» Паўлоўскаму Т. І. ад інжынера аддзела збыту Сідарава Анатоля Дзям'янавіча, 1959 года нараджэння, беларуса, добрасумленнага, працалюбівага, стараннага, ініцыятыўнага, дысцыплінаванага, вопытнага работніка, высокаэрудзіраванага, кампетэнтнага спецыяліста з вышэйшай адукацыяй, які бачыць перспектыву і ўмее выбіраць прыярытэтныя напрамкі ў сваёй дзейнасці, надзейнага настаўніка маладых супрацоўнікаў, узорнага сем'яніна без шкодных звычак, выдатнага мужа і бацькі двух цудоўных дзяцей, ветлівага, добра выхаванага, маральна ўстойлівага чалавека. Заява: прашу выдаць мне характарыстыку для прад'яўлення ў раённы аддзел унутраных спраў у сувязі з тым, што супрацоўнікі міліцыі затрымалі мяне ў нецвярозым стане, калі я рэгуляваў рух аўтатранспарту на перакрыжаванні вуліц.

Сідараў А. Д.»

### Новае жыццё



— Хопіць! — рашуча сказаў Максім Бярозка, вяртаючы буфетчыцы талерку з жаўтлявым рысам пад назвай «плоў». — Ешце яго самі!

— Нагі маёй тут не будзе! — папярэдзіў Бярозка праз некаторы час у пральні, забіраючы пакамечаную кашулю з плямамі, як на геаграфічнай карце.

— Усё, хлопцы, па піва я ўжо бегаць не буду! — адрэзаў неўзабаве Бярозка сябрам у інтэрнаце.

— На самай справе?! — не паверылі тыя.

— Святая праўда! На Каляды жанюся!..

### Юшка



У адсталы калгас прыехаў карэспандэнт сталічнай газеты. Старшыня вырашыў задобрыць яго і арганізаваў на беразе возера юшку.

Праз тыдзень у газеце з'явіўся востры крытычны матэрыял. Старшыня калгаса пакрыўдзіўся і патэлефанаваў у рэдакцыю:

— Недахопаў у нас сапраўды многа, але ж якая добрая была юшка!

— Пра недахопы я і напісаў, — адказаў карэспандэнт. — А пра юшку мне не давалі задання пісаць.

### Тонкі разлік



У двары стаяла старая альтанка, якую трэба было тэрмінова знесці. Старшыня жыллёвага кааператыва некалькі разоў прасіў жыхароў дома разабраць яе, але ніхто і пальцам не павярушыў.

Тады старшыня пакінуў на альтанцы запіску: «Ахоўваецца дзяржавай!»

За адну ноч яна была разабрана.

Ахоўваецца дзяржавай!



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Андрэя СІДАРЭЙКІ.




## НА КРЫЛАХ ТВОРЧАСЦІ

*Вядомы беларускі пісьменнік Янка СІПАКОЎ (1936–2011) нарадзіўся ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна. Больш за 10 гадоў Іван Данілавіч супрацоўнічаў з «Вожыкам» (1960–1973). Увогуле сябраваць з часопісам ён пачаў вельмі рана, яшчэ будучы студэнтам: гумарыстычныя допісы, замалёўкі і фельетоны, якія з'яўляліся на яго старонках пад псеўданімам Сібарсач, – плённая праца творчага тандэма маладых літаратараў (Сіпакоў – Барадулін – Сачанка).*

*Шырокаму чытачу творчасць Я. Сіпакова знаёмая па кнігах паэзіі «Сонечны дождж», «Лірычны вырай», «Дзень», «Веча славянскіх балад» і інш. А ў «Бібліятэцы «Вожыка» выйшаў шэраг яго кніг гумару: «Лысы юбілей» (1965), «Плюс на мінус» (1973), «Ланцугі для мух» (1980), «Пятніца ў суботу» (1988).*

*Творчая спадчына Я. Сіпакова і сёння застаецца надзвычай актуальнай і надзённай. Згадаем адзін з твораў пісьменніка з нагоды 80-годдзя з дня яго нараджэння.*



**Янка СІПАКОЎ**

## Пярэпалах з валяр'янкай

Забялендзіка паклікаў да сябе дырэктар. А Мар'і Сцяпанаўне, самай уразлівай, самай чуллівай ва ўсёй установе жанчыне, ад гэтага стала блага. Праўда, перад тым, як страціць прытомнасць, яна ўсё-такі хацела выгаварыцца:

– Мусіць, за вымовай паклікалі Забялендзіка... Ён жа ўчора спазніўся на працу... пяць год чалавек не пазніўся, а тут адзін дзень і...

Дагаварыць доўгую прамову Мар'і Сцяпанаўне не далі – ёй паднеслі валяр'янкі. На бяду, тут была прадстаўніца з другога аддзела: Алена шыла сабе сукенку і якраз прыйшла да Мар'і Сцяпанаўны параіцца, дзе цяпер модна рабіць складкі. Убачыўшы, што творыцца ў аддзеле, яна пабегла ў свой пакой – тут ужо было не да складак.

– Што робіцца! – заламала яна рукі. – У планавым аддзеле разгон.

Забялендзік атрымаў строгую вымову з апошнім папярэджаннем... За тое, што да чужых жонак любіў... гэта самае... Не можа ж быць, каб за тое, што спазніўся на нейкіх пяць хвілін.

У кожным пакоі, вы ведаеце, заўсёды ёсць хтосьці з другога аддзела. Вось па ўстанове і пайшло:

– Забялендзіка здымаюць з пасады. Ён, кажуць, піў бязбожна. Бо не можа быць, каб за тое, што часам да чужых жонак...

У другім пакоі дапаўнялі:

– Забялендзік у выцвярэзніку ўчора начаваў. За гэта і звальняюць. Не можа быць, каб толькі за тое, што піў. Піць то можа і піў, але вось выцвярэзнік...



У наступным пакоі звесткі былі яшчэ больш дакладныя:

– Забялендзіка праганяюць з працы і забіраюць у турму. Ён жа ўчора, кажуць, у п'яным выглядзе чалавека прыстукнуў. Не можа быць, каб яго забіралі ў турму за тое, што ў выцвярэзніку пераначаваў...

Адным словам, пакуль Забялендзік выйшаў ад начальніка – кожная трэцяя жанчына піла валяр'янку. Гэтага лякарства ва ўстанове не хапала, за ім бегалі да суседзяў.

А Забялендзік прыйшоў у свой аддзел вясёлы. «Вось нервы ў чалавека, – здзіўляліся супрацоўнікі, – у турму ідзе, а ўсё роўна, як на вяселле».

Забялендзік пачаў збіраць паперы, ачышчаць свой стол. Мар'я Сцяпанаўна, якой стала крыху лягчэй, прыўзняла галаву:

– Куды ж вас забіраюць? І ці далёка вы дзе сядзець будзеце?

– Сядзець? Зусім недалёка. Насупраць дзвярэй дырэктара. Толькі што я яго намеснікам зацверджаны.

Мар'я Сцяпанаўна зноў папрасіла валяр'янкі – на гэты раз двайную дозу.

*«Лысы юбілей», 1965 г.*



# Мініяцюры

## Нахабнік

Аматар ён вялікі
Хаваць свой недахоп:
За кошт чужых пралікаў
Жыве нахабнік-клоп.

## Два стрыжні

Спрадвек культура і натура
Два стрыжні вартасці адной.
Натура — гэта плод культуры,
Культура — плод душы людской.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

## Перасяленне

Глеб сказаў аднойчы Верцы:
«У маім была ты сэрцы,
А як толькі стала жонкай —
Перабралася ў пячонку!»

**Расціслаў БЕНЗЯРУК,**
*г. Жабінка.*




## Пра размовы

Манера гутаркі павінна быць адна:
Каб суразмоўца больш нічога не пытаўся
Альбо — каб ён не ўцяміў ні ражна,
Ды ўсё-ткі задаволены застаўся!

## Перакананне

Даўно з перакананнем я жыву
(Не без падставы, ты павер, хлапец):
Калі зваліўся з печы, не агрэў хвасцец —
Паб'еш абавязкова галаву.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




*Ёсць тры віды сяброў: сябры, якія вас любяць, сябры, якія да вас раўнадушныя, і сябры, якія вас ненавідзяць.*

*Нікаля дэ Шамфор,*
*французскі пісьменнік*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Мікалай ГЛЕБ**

## ФІЛІГРАННАЯ ІДЭЯ



*Гумарэска*

Старшыня СВК «Агра-Дубнякі» Яўген Шэршань на чарговым праўленні не сыпаў, як звычайна, лічбамі, не называў паказчыкаў.

– Тут справа вось у чым... – кіраўнік сканфужана апусціў вочы і пасля некаторай паўзы працягнуў. – Давядзецца нам закрыць у вёсцы Вошкаўцы пачатковую школу.

– Які ж гэта разумнік знайшоўся, каб такі загад даць? – перайшоў у наступленне дзед Патап, які і на пенсіі быў перадавіком у паляводстве.

– Загад з раённага аддзела адукацыі прыйшоў, – патлумачыў Шэршань. – Не хапае ў нас аднаго вучня, таму школу трэба зачыніць. Што будзем рабіць, людцы?

На нейкі момант настала такая цішыня, што нават было чутно, як аб шкло акна дыспетчарскай білася муха.

Раптам няўрымслівы дзед Патап варухнуўся і, не спытаўшы дазволу выступіць з прапановай, выпаліў:

– У мяне ёсць ідэя!

Кіраўнік зацікаўлена паглядзеў на яго. У прысутных у вачах затанцавалі іскрынкі смеху.

– Па-мойму, філігранная нават, – працягваў той. – Трэба кінуць жэрабя.

– Якое яшчэ жэрабя?

– Ну і нездагадлівы народ пайшоў, – буркнуў Патап. – Жэрабя, каму вырашаць гэтую праблему з апошнім вучнем, якога школе нестае.

У зале грымнуў такі смех, якога даўно ўжо тут, на планёрках, не было чуваць. Рагатаў мажны загадчык жывёлагадоўчай фермы Іван Каляда, звонка хіхікала чырванашчокая даярка Маня Смаршчок, качаўся са смеху механізатар Пётр Кавалёў. Не змог стрымацца нават токар Юзік Панфіля, заўсёды сур'ёзны чалавек. А дзед Патап у гэты час прабіраўся па вузкім праходзе з шапкай у руках да старшыні калгаса. Паклаўшы яе перад ім, паспешна сказаў:

– Тут ляжаць пацеркі. Хто першы пацягне?

Смех у зале не сціхаў. Патап нават пачаў крыўдзіцца. Ён стаў гаварыць, што раней у вёсцы кожная сям'я мела не менш за трох дзяцей, а многія – па пяць і болей. Цяпер жа адно-двое – і годзе.

– Дзед, а тады цягні і ты жэрабя! – кінуў хтосьці з залы, хапаючыся за жывот.

Патап дакорліва паківаў галавой, а пасля падняў руку. Смех заціх.

– Давай ты, Іван, – працягнуў дзед шапку загадчыку фермы.

– Чаму я? Няхай лепш Маня, – выкруціўся той, прымусіўшы дзяўчыну пачырванець.

І хто ведае, колькі яшчэ часу працягваліся б угаворы, каб з прыёмнай не пазваніла кіраўнік спраў гаспадаркі Дуся Зайчук. Яна паведаміла, што на прыём да старшыні просяцца нейкія незнаёмыя перасяленцы, мужчына і жанчына. Хочуць уладкавацца на працу. А з імі – чацвёра дзяцей школьнага ўзросту. Апошняя вестка ўсіх узрадавала.

Першым ачомаўся кіраўнік:

– Пакліч іх хутчэй сюды, на мехдвор, у дыспетчарскую!

Прыезджыя выказалі жаданне працаваць механізатарам і жывёлаводам пры ўмове, што ім будзе выдзелена кватэра з выгодамі. У гаспадарцы якраз стаяў пустым аднапавярховы катэдж. А рабочых рук не хапала.

Дамоў усе разыходзіліся задаволеныя. А дзед Патап ніяк не супакойваўся:

– Думаць пра дзяцей усё роўна трэба.

Раптам гэтыя прыезджыя ўцякуць ад нас, што тады? Думайце, людцы, думайце!..



*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

## Паважаныя чытачы!




*Напэўна, усім вам добра вядомае адчуванне радасці пры сустрэчы з даўнімі знаёмымі, якіх не бачыў шмат гадоў. Адразу пачынаеш цікавіцца, што новага, як справы, узгадваць мінулае, дзяліцца планамі на будучае... «Вожык» вырашыў зноў сустрэцца з былымі сябрамі, каб пазнаёміць вас з імі больш цесна. У бягучым годзе на старонках кожнага нумара будуць прадстаўляцца гумарыстычныя выданні краін, якія калісьці ўваходзілі ў склад вялікай Савецкай дзяржавы. Упэўнены, нас чакае шмат цікавага і вясёлага! Першы наш госць прыбыў з далёкай Рэспублікі Башкартастан, што, між іншым, не перашкаджае падтрымліваць з ім добрыя стасункі. Не будзем зацягваць уступнае слова! Знаёмцеся: спадар «Хэнэк»!*

**Ваш няўрымслівы «Вожык».**




### «Віламі» не па вадзе, а па заганах

Першы нумар сатырычна-гумарыстычнага часопіса «Хэнэк» (што ў перакладзе з башкірскай мовы азначае «вілы») пабачыў свет у горадзе Уфа ў далёкім 1925 годзе. А гэта значыць, што нядаўна наш сябар адсвяткаваў сваё 90-годдзе. Праўда, у перыяд з 1937 па 1956 г. часопіс не выходзіў. Затое, пачынаючы з 1992 г., друкуецца яшчэ і яго дубляжны варыянт на рускай мове пад назвай «Вілы».

Сёння выданне — сапраўдны флагман нацыянальнай сатыры і гумару. За доўгую гісторыю існавання часопіса яго рэдактарамі былі вядомыя башкірскія пісьменнікі Гарыф Гумер, Марат Карымаў і іншыя. Сапраўдны рэкардсмен на гэтай пасадзе (ажно 30 гадоў!) — Марсэль Салімаў, які ў першым нумары рускамоўнага часопіса адзначыў, што «Вілы» ствараюцца не «для таго, каб накіроўваць іх адзін супраць аднаго, а для таго, каб павялічваць ураджай дабрыні ў сэрцах і на полі. Бо нашыя «Вілы-Хэнэк» закліканы памнажаць усмешкі, якія збліжаюць людзей».

Сапраўды, гумар башкірскага народа блізкі і нам, беларусам. Мы высмейваем падобныя з'явы, б'ём сатырай па агульных заганах, па-добраму кпім з чалавечых дзівацтваў... У гэтым, паважаныя чытачы, лёгка ўпэўніцца: прадстаўляем вашай увазе некаторыя матэрыялы з апошніх нумароў часопіса-пабраціма.

### Дыялогі

— Прыгажуня, гляджу на цябе, і слоў няма!
— А грошы ёсць?
***
— Купіў дачу: домік і адна сотка зямлі.
— Дык там жа няма дзе капаць-саджаць!
— Вось таму і купіў.
***
— Люся, дарагая, я для цябе зраблю ўсё, што захочаш.
— Я таксама.
— Тады стань маім паручыцелем у банку!
***
— А што вы тату на дзень нараджэння падарылі?
— Грошы. Заўтра пойдзем маме туфлі купляць...
***
— У вас ёсць магчымасць адкладваць грошы?
— Магчымасць ёсць, грошай няма.

**Сабраў Ахмет КАЙМАНАЎ.**



Малюнак Уладзіміра АЛЯКСАНДРАВА.

Радзіф ЦІМЕРШЫН

# Пераборлівыя злодзеі



Многія яшчэ памятаюць часы разгулу дачных злодзеяў. Як толькі сезон заканчваўся, каля хат адразу пачыналі аціраццa падазроныя тыпы, трыбушыць безабаронныя ўчасткі. Здараліся і пацешныя эпізоды, якія пакідалі ў пацярпелых калі не светлыя, то, прынамсі, вясёлыя ўспаміны.

Так, адзін з садаводаў, назавём яго Бактыгарэй бабай, прыехаў позняй восенню праведаць дзялянку і ўбачыў, што дзверы яго тыпавога будынка прачынены, унутры паўсюль раскіданы рэчы. Аднак жа нічога не ўкрадзена, нават грошы ў скрыні камоды цэлыя. Самым незразумелым было тое, што пасярод пакоя каля ложка стаялі тры вялізныя мяхі з капустай. «Што за навіна? Хто зрабіў такі падарунак? – здзівіўся мужчына. – Звычайна злодзеі цягнуць з дома, а тут, наадварот, прынеслі».

Цяпер трэба было завезці гэтыя мяхі дадому, але перад гэтым бабай вырашыў расказаць пра здарэнне суседу. Той і агаломшыў Бактыгарэя: маўляў, капуста ягоная, хтосьці спустошыў суседавы грады. Давялося аддаць усе тры мяхі... Засмучаны гаспадар пайшоў у склеп: трэба ж узяць што-небудзь дадому.

Спусціўся – і ахнуў: надышла яго чарга лічыць страты. З паліц прапала некалькі слоікаў варэння, не было паловы запасаў бульбы, нават схаваную ад жонкі бутэльку быццам карова языком злізала.

Відаць, паколькі быў выбар, злодзеі зрабілі яго на карысць бульбы і варэння. Двайную паклажу асіліць яны не маглі, разлічвалі вярнуцца па капусту пазней...




Малюнак Юрыя ЕРАМЕЕВА.




Малюнак Дзмітрыя ТРАФІМАВА.

## Знарок не прыдумаеш

«25-га пошта не працуе, перадача спраў. Просьба не грукаць і мазгі не паласкаць».

*(З аб'явы.)*

«Я спазнілася сёння на працу, бо на аўтобус, у якім ехала, напалі кантралёры».

*(З тлумачальнай.)*

«Па рашэнні суда з мяне спагналі аліменты. Ад радасці мая жонка пачала скакаць проста перад судом. Я абражаны яе паводзінамі і прашу адмяніць спагнанне».

*(З касацыйнай скаргі.)*

**Сабраў Артур ЧАРКАСАЎ.**




Малюнак Аляксандра АНДРЭЕВА.

## Хаханькі

Вадзіцелі маршрутак разлічваюцца ў крамах, стоячы спінай да прадаўца.

Калі пакупка аўтамабіля зусім не радуе, значыць, вы набылі яго жонцы, а крэдыт афармілі на сябе.

Дзяльба шкуры незабітага мядзведзя сёння называецца бізнес-планаваннем.

Мае суседзі слухаюць якасную музыку. І няважна, хочуць яны гэтага ці не.

**Ахмет ХАНАЎ.**



Малюнак Аляксандра УЛАДЗІМІРАВА.



Малюнак Яўгена КРАНА.






На спатканне йшла да Пеці
Я ў малінавым берэце.
Не пазнаў мяне, зараза,
Ўцёк, нібыта ад спецназа.

***

Да начальства заўжды дарагі
Адчыняе дзверы з нагі.
Тут ніякай знявагі, дзяўчаты:
Проста хабарам рукі заняты.

**Аляксей ДАБРЫНІН.**




Я – клерк. Я і стэплер, і сканер.
Работа мая – як гульня.
У межах прыдуманых правіл
Разлікі і акты штодня.
Душы тут зусім няма месца,
Нібы дзесьці звонку яна.
Ды ўсё-ткі не плача – смяецца,
Бо з жартам сябруе здаўна.
Я хватку на раз імітую
І лёгка пазыкі раблю.
Чарговую папку таўстую
Ў архіў беззваротна здаю.
А вечар наш карпаратыўны...
Куды ж без рэгламенту ён?
Прамовы ад самых актыўных,
Марціні, каньяк і крушон.
Гаворыць шэф пра перспектывы,
Адказам – захоплены ўскрык:
«Рэзервы мы маем і сілы!»
Ды... крызіс, а з ім – і тупік.

**Наіль БІКМЕТАЎ.**

**Пераклады з рускай Веранікі МАНДЗІК.**

г. Мінск

## Серыялы і рэальнасць

Бабулька з Савецкага раёна наглядзелася крымінальных серыялаў і вырашыла паспрабаваць сябе ў ролі сапраўднага злачынца. Яна часта бачыла, як у падобных фільмах людзі страчваюць прытомнасць з-за аднаго ўдару па галаве. Праўдзівасць такога факта і захацела праверыць пенсіянерка.

Аб'ектам «эксперымента» была абрана паштарка, якая разносіла па кватэрах пенсіі. Калі яна закончыла працу і ўжо накіроўвалася да дзвярэй пад'езда, бабулька, начапіўшы парык і прыхапіўшы палку, рушыла за ахвярай. Падкраўшыся ззаду, некалькі разоў стукнула жанчыну. Тая звалілася на падлогу, але ёй удалося падняцца і выбегчы на вуліцу. Там пацярпелая і выклікала міліцыю.




Аматарка серыялаў пасля гэтага схавалася ў сваёй кватэры, выкінуўшы праз акно ўвесь свой акцёрскі інвентар. Але гэта ёй не дапамагло. Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Савецкага РУУС затрымалі пенсіянерку і ўзбудзілі крымінальную справу. Можна сказаць, эксперымент праваліўся. Лепш бы бабуля глядзела «мыльныя оперы»...




## Хай «пачухаюцца»!

Зусім нядаўна з'явілася такое паняцце, як «навагодні сверб». З сярэдзіны снежня і да пачатку студзеня пэўныя катэгорыі людзей, дзякуючы святочнай ліхаманцы, зарабляюць неблагія сумы грошай. Сюды можна аднесці розных гандляроў, артыстаў, прадаўцоў елак, упрыгожванняў да іх і іншых.

Двое хлопцаў, студэнт і ліцэіст, таксама вырашылі адарваць сабе кавалак ад навагодняга пірага. На жаль, ні спяваць, ні танчыць, ні выконваць ролі казачных персанажаў яны не ўмелі. Таму зарабіць свае грошы на святочным «свербе» яны вырашылі з дапамогай піратэхнікі. Вось толькі прадавалі яе маладыя «прадпрымальнікі» без неабходных дакументаў, якія пацвярджалі б легальнасць набыцця і бяспечнасць гэтай прадукцыі.




Хлопцаў затрымалі супрацоўнікі міліцыі Кастрычніцкага РУУС. Зараз прадаўцоў чакае штраф у памеры да пяцідзесяці базавых велічынь з канфіскацыяй тавара. Відаць, ім давядзецца добра «пачухацца», каб выплаціць гэтыя грошы.

## Механічныя сябры

Цяжка ўявіць сённяшняе жыццё без бытавой тэхнікі і электронікі. Згадзіцеся, што тэлевізар, камп'ютар ці простая пральная машынка сталі нашымі незаменнымі памочнікамі. І зразумела, што калі нейкая з гэтых рэчаў псуецца, мы адразу ж адпраўляем яе ў рамонт.



Такой залежнасцю людзей ад бытавой і камп'ютарнай тэхнікі скарыстаўся 34-гадовы мужчына. У інтэрнэце ён размяшчаў аб'явы аб рамонце «сяброў нашых механічных», браў за сваю працу перадаплату, а потым не вяртаў уладальнікам іх рэчы. Тэхніку ён прадаваў. Усе выручаныя грошы махінатар аддаваў, бо меў шмат даўгоў.

Пакуль што супрацоўнікамі аддзела крымінальнага вышуку Партызанскага РУУС было выяўлена пяць чалавек, якія трапілі ў пастку зламысніка. Агульны ўрон склаў каля 25 мільёнаў рублёў. Следства працягваецца. Міліцыянеры мяркуюць, што пацярпелых можа аказацца значна больш. Шкада толькі, што «механічныя сябры» да іх ужо не вернуцца, а будуць жыць у іншых сем'ях.

**Нэла ЛОСЬ**

## Незапланаваны абмен



*Быль*

Дацэнт Сямён Пятровіч накіроўваўся ў камандзіроўку ў сталіцу. Разам з ім у купэ размясцілася яшчэ трое мужчын. Пад грукат колаў спадарожнікі пазнаёміліся, павячэралі, выпілі гарбаты. А там і бутэлечка каньяку знайшлася. Пасля прыемнага застолля, змораныя і задаволеныя, мужчыны леглі спаць. Падхапіліся яны толькі ў Мінску. Хуценька сабраліся, развіталіся, абмяняліся тэлефонамі і разбегліся – кожны па сваіх справах.

У зале пасяджэнняў, рыхтуючыся да выступлення, Сямён Пятровіч зірнуў на свае ногі і ледзь не самлеў. Чаравікі былі розныя! Адзін – чорны, другі – карычневы. З горам напалам угаварыў знаёмага, каб той пазычыў абутак. Добра, што памер падышоў.

Выступленне прайшло без праблем. Але хадзіць па абутковых магазінах ужо не было калі. Так і прыехаў дамоў у розных чаравіках. Сазваніўшыся са спадарожнікамі, сабраў, нарэшце, сваю пару.

Сямён Пятровіч і дагэтуль перад кожнай камандзіроўкай успамінае гэты незапланаваны абмен.

*Пастаўскі раён,*
*г. п. Лынтупы.*




Хранічнага шчасця гэтак жа няма, як няма лёду, які ніколі не растае.

*Віктор Гюго, французскі пісьменнік*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Зорныя карункі

Паляцелі ў вырай думкі...
Абдымі мяне хутчэй –
І забудземся ў карунках
Доўгіх студзеньскіх начэй.
Мыш шкрабецца на палацях,
Спіць павук у гамаку,
Ходзіць сон па цёплай хаце
З торбай казак на баку.
Ну, расплюшчы свае вочы,
Гэтак можна ўсё праспаць!
Ты ж казаў, што вельмі хочаш
З неба зорачку дастаць...
Колькі іх на сцежцы млечнай –
Немагчыма палічыць.
Будзем да світанку ў дзежцы
Цеста зорнае мясіць.

*г. Барысаў.*



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Міхась СЛІВА

# Праўда ў вочы

*Гумарэска*

Аднойчы ў абедзенны перапынак супрацоўнікі фірмы завялі размову пра паводзіны эканаміста Сямёнава.

– Ён увесь час гаворыць усім толькі прыемнае, кампліментамі сыпле, але ж я не веру ў шчырасць яго слоў! – катэгарычна заявіла галоўны бухгалтар Інеса Алегаўна.

– Сапраўды, – падтрымаў яе начальнік аддзела кадраў Рамізін, – ён, у адрозненне ад нас, ніколі не выказаў абурэння паводзінамі дырэктара. Як быццам і не ведае, што шэф грубы, з кліентамі нахабнічае... Дык не, Сямёнаў і слова дрэннага не прамовіць!

– Але, баіцца сказаць людзям праўду ў вочы, – уключылася ў размову менеджар Ганна Патапаўна, стрыечная сястра дырэктара. – Хіба ў нас няма недахопаў? Хоча выглядаць для ўсіх добранькім. А трэба быць прынцыповым!

Усю гэтую размову чуў сам эканаміст, бо ягоны кабінет быў побач, а гукаізаляцыя там дрэнная. Сямёнаў набраўся цярпення і зрабіў выгляд, што нічога не ведае. Але ж зерне сумнення, кінутае калегамі, дало свае ўсходы. «Можа, яны і сапраўды маюць рацыю? – закралася ў галаву думка. – Відаць, трэба быць смялейшым, не баяцца выказаць сваё меркаванне. Тым больш, што гэта будзе імпанаваць супрацоўнікам фірмы».

...Праз дзень Сямёнаў, забіраючы ў галоўнага бухгалтара накладныя на чарговую партыю тавараў, не стрымаўся і сказаў тое, што думаў. А менавіта: выказаў абурэнне, што Інеса Алегаўна, як заўсёды, затрымала аплату па дакументах, няўважліва адносіцца да даручэнняў кіраўніцтва і наогул тармозіць многія добрыя пачынанні. Інеса Алегаўна пазелянела ад злосці і сціснула кулачкі. Пачала падбіраць у адказ патрэбныя словы, каб выказаць сваё раздражненне паводзінамі Сямёнава, але той хуценька шмыгнуў за дзверы.

Назаўтра эканаміст у размове з сакратаркай у прысутнасці начальніка аддзела кадраў выказаў нязгоду зновымі ідэямі і патрабаваннямі дырэктара. А потым, распаліўшыся, ляпнуў, што той яшчэ большы лайдак, чым менеджар Ганна Патапаўна...

Праз некаторы час з Сямёнавым перастала вітацца Ганна Патапаўна, галоўны бухгалтар пры сустрэчах злосна зыркала на яго, а дырэктар не запрашаў да сябе параіцца, як раней.

А неўзабаве начальнік аддзела кадраў Рамізін зайшоў у кабінет эканаміста і паведаміў, што праз месяц з Сямёнавым заканчваецца кантракт. Рашэнне дырэктара ўжо вядома: на новы тэрмін кантракт падпісаны не будзе...

*г. Рагачоў.*






Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




– Гэта значны поспех! – кажа інструктар аўташколы дзяўчыне. – Сёння вы ўпершыню абагналі аўтамабіль з расплюшчанымі вачыма.

**Даслаў Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ,**
*г. Маладзечна.*



# Малюе Пётр КОЗІЧ














РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе




Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

## «Казкі чараўніцы зімы»

Гэта кніга чароўная! У любы час, варта толькі зазірнуць пад вокладку, яна перанясе чытачоў у дзівосныя святочныя дні. Тыя, калі і дзеці, і дарослыя чакаюць цудаў. І яны сапраўды адбываюцца! Аб самым незвычайным вам раскажуць героі казачных гісторый. Пазнаёмцеся з імі, сябры, і вы пабываеце ў чароўным свеце казак, даведаецеся, як здзяйсняюцца цуды, і навучыцеся не толькі заўважаць іх у звычайным жыцці, але і ствараць для тых, каго любіце.

P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga. by, і ў самім Выдавецкім доме па адрасе:

220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Даведкі па тэлефонах 284-44-04, 288-12-94. Пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна даведацца па тэлефонах: 296-70-72, 292-70-72.

Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» — www.zviazda.by

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

## СУСТРЭЧА З ДЗЕДАМ МАРОЗАМ

*Навагодняя быль*

Малы Сяргейка прыйшоў з дзіцячага садка пасля навагодняга ранішніка і хваліцца старэйшаму брату Воўку:

– А да нас на свята прыходзіў сапраўдны Дзед Мароз! Частаваў цукеркамі, вадзіў з дзецьмі карагод, спяваў песні, а галоўнае – абяцаў прыйсці да кожнага з нас у навагоднюю ноч і пакінуць падарункі пад ёлкай!

– Малы ты яшчэ, браце! Не існуе ніякага Дзеда Мароза!

– Не мані, я сам бачыў!

– Каго ты бачыў? Адна з выхавальніц пераапранулася, начапіла бараду, узяла мех з цукеркамі, а вы і раты параскрывалі, у казку паверылі!

– Усе нашы выхавацелі прысутнічалі на ранішніку! – ледзь стрымліваў слёзы Сяргей. – Гэта быў Дзед Мароз! Падарункі абяцаў прынесці!

– Нам падарункі пад ёлку заўсёды бацькі кладуць!

Сяргейка пакрыўдзіўся, насупіўся і пайшоў у свой пакой. Старэйшы брат сапсаваў яму настрой, але малы цвёрда вырашыў дазнацца, ці існуе казачны дзед на самай справе! Няўжо гэта ўсё выдумкі?!

Трыццаць першага снежня Сяргейка лёг удзень паспаць, каб потым выседзець аж да самай раніцы і ні ў якім разе не прапусціць сустрэчу з Дзедам Марозам. У адзінаццаць гадзін вечара ўся сям'я села за стол, каб правесці Стары год і сустрэць Новы. За гэту гадзіну Сяргей так стаміўся сядзець за сталом, што пайшоў на канапу адразу пасля бою курантаў. Яшчэ некаторы час ён глядзеў тэлевізар. Бацькі пайшлі віншаваць са святам суседзяў, а Воўка лёг спаць. Сяргейка трымаўся з апошніх сіл, вочы заплюшчваліся самі сабой.

– Можа, і няма ніякага Дзеда Мароза? – засумняваўся малы. – Мабыць, трэба класціся спаць, пакуль ёсць сілы дабрацца да свайго ложка...

Сяргей расчаравана ўздыхнуў і ўжо хацеў ісці ў свой пакой, як раптам... На балконе пачуўся нейкі шум, потым ціхенька адчыніліся балконныя дзверы і ў залу ўвайшоў самы сапраўдны Дзед Мароз! За сабой ён цягнуў такі вялікі мех з падарункамі, што ніяк не мог праціснуць яго ў вузкі праём. Нарэшце і Дзед, і мех былі ў пакоі. Сяргей баяўся дыхаць, бо госць не заўважыў яго. Дзед Мароз паклаў пад ёлку падарункі і прысеў на хвілінку адпачыць.

– Ну, пара рухацца далей! – сказаў ён сам сабе. – Мяне яшчэ шмат дзяцей чакае!

Дзядуля выпхнуў на балкон свой мех і хацеў выйсці за ім, але ў гэты момант Сяргейка вырашыў паклікаць Воўку, каб той на свае вочы пабачыў сапраўднага Дзеда Мароза.

– Воўка! Воўка! – з усяе моцы закрычаў Сяргей.

Перапалоханы госць кінуўся да дзвярэй балкона. Вырашыўшы затрымаць яго, Сяргейка хацеў схапіць старога за крысо футра, але за нешта зачапіўся, паваліўся на падлогу і... прачнуўся!

За акном свяціла сонейка. Сяргей ляжаў на падлозе.

– Няўжо я праспаў цэлую ноч?! – абураўся малы. – І Дзед Мароз мне толькі прысніўся?! Твая праўда, Воўка, мабыць, няма яго...

Паглядзеў Сяргей пад ёлку, а там стаяць тыя самыя падарункі, якія пакінуў начны госць! Пачухаў хлопчык патыліцу, потым ён радасна ўсміхнуўся і сказаў:

– Дзякуй, дзядуля! Прыходзь да мяне і на наступны год!

## Важная навіна



Сын прыбег дадому
(У садок хадзіў),
Важную навіну
Гучна аб'явіў:
– Грып у нас, матуля! –
Пракрычаў Ягор. –
Ды які, не знаю...
Пэўна, мухамор!

**Яніна ЖАБКО,**
*г. Мінск.*




Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

Засвістаў габой –
І пачаўся бой.
Канапаты баксёр
Аб канаты бок сцёр.
Хоць з'явіўся фінгал,
Ды прабіўся ў фінал.



І Мікітка, і Макар
Беглі ў лазню праз папар...
На палку сядзяць у пары
І крычаць: «Паддай нам пары!»

Ляжыць Лявон ля нівы
І спіць, лайдак лянівы.
Быкі пайшлі на травы,
І вось табе – патравы!





Недзе густа, недзе пуста
Наградзе ўзышла капуста.
Ды аднойчы з-за лазы
Паказаўся рог казы.
Добра, што калматы Тузік –
Чорны нос, нібыта гузік –
Моцны брэх узняў тады
І казу прагнаў з грады.

## Анекдот

Маці хуценька збірае дачушку ў дзіцячы садок. Адной рукой фарбуе сабе вейкі, другой апранае малую. Бягуць на маршрутку. Маці глядзіць – а малая без рукавічак.

– Дачушка, у цябе ручкі без рукавічак не замерзлі?

– Не, мамачка! А вось ножкі без боцікаў – так!




## Дарагая, выручай!

Глыбокай ноччу адбылося гэта.
Зімой, не адчуваючы марозу,
За стан абняўшы ладную кабету,
У дзверы стукаў дзядзька нецвярозы.

Святлом квадрат акна заззяў у хаце,
І тут жа клямка ў сенцах загрымела.
На ганку жонка сонная ў халаце
Ажно ад нечаканасці знямела.

Па-змоўніцку хітрун прыжмурыў вока.
Пакуль была на вуліцы сяброўка,
Зайшоў у дзверы нетрывалым крокам:
«Скажы, што ты сястра мне, а не жонка!»

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

## Сварка

Пасварыліся старыя,
Як унукі іх малыя.
Дзед крычаў:
– Без солі каша,
І сама ты – сыракваша!
Баба адказала дзеду:
– Ад цябе я ў свет паеду!
– Як пакінеш ты мяне,
Веру, шчасце не міне.
– Што ж, не бачыць табе раю!
І не з’ехала старая...

Зразумелая рэмарка:
Дзе каханне, там і сварка!

**Расціслаў БЕНЗЯРУК,**
*г. Жабінка.*



## Шчаслівыя ялінкі

Голыя бярозы
Стынуць на марозе.
Елкі ж усміхаюцца,
Бо не распранаюцца.
І вясёлым гуртам
У зялёных футрах
Стройныя прынцэсы
Выбягаюць з лесу.
Скочыўшы у сані,
Едуць елкі з намі
З лесу, як з кіёска,
На Каляды ў вёску,
Каб у футрах новых,
Рознакаляровых
Разнесці па хатах
Пах і радасць свята.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ,**
*г. Баранавічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ і Андрэя СІДАРЭЙКІ.


Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




У кожнага чалавека бывае тры маладосці: маладосць цела, маладосць сэрца і маладосць розуму. На няшчасце, яны ніколі не супадаюць.

*Франсуа Фенелон, французскі пісьменнік*

Ганна ШЫЛЬКО

# Бацькавы лекі

*Быль*



Быў у Хвэліся і Анэлі адзіны сынок – Міхаська. Больш за чатыры гады служыў хлопец у войску на флоце, удалечыні ад бацькоўскай хаты.

Дадому вярнуўся акурат перад самымі Калядамі. Бацькі не маглі нарадавацца Міхаську.

Хвэлісь у размовах з мужчынамі абавязкова ўстаўляў што-небудзь пра флот, Анэля ж даглядала сына, як дзіця малое. З работай хлопца не падганялі: колькі той працы зімой у калгасе? Ды і старшыня абяцаў адправіць Міхаську вучыцца на шафёра.

Усё было б добра, ды толькі чым больш Анэля слухала сына, тым больш трывожылася: размаўляць ён пачаў зусім па-іншаму. Раней казаў «мамка» ды «татка», а цяпер «мамаша» ды «папаша». Дзяўчат стаў называць «дзявахі», вёску – «дзярэўня», капусту – «щи»...

– Сынок, занясі трасянкі карове, – папрасіла аднойчы Анэля Міхаську. – Рэзгіны вазьмі пад павеццю.

А сынок у адказ:

– Что такое трасянка? А где рэзгіны?

І так кожны дзень. Як малому, тлумачыла Анэля сыну, што, дзе і як.

Але пасля аднаго выпадку і яе цярпенне скончылася. У той дзень Хвэлісь павінен быў выганяць у поле карову, ды раптам занядужаў.

Папрасіла Анэля сына падмяніць бацьку. Той жа зноў засыпаў яе пытаннямі і давёў да слёз.

Пайшла кабета да мужа і ўсё расказала. Выслухаў Хвэлісь жонку і згадзіўся з ёй, што ў Міхаські з галавой не ўсё ў парадку.

– Але з-за такой хваробы да лекара ехаць не трэба. Ты мне лепш зранку, як сын будзе спаць, перакажы гэтыя словы гучным шэптам, а там пабачым.

Раніцаю Анэля гучна загаласіла, як і было дамоўлена.

– Хопіць ліць слёзы, – пачаў супакойваць жонку Хвэлісь. – Зараз я Міхаську вылечу...

Вяроўкай ад рэзгін! Але не, яна слабаватай будзе.

Відаць, трэба ўзяць папругу!

Толькі паспеў Хвэлісь выйсці ў сені, а Міхаська ўжо на нагах:

– Мамка, я паганю карову ў поле! А потым паснедаю капустаю ды пайду на работу.

– Вылечыў! Вылечыў! – узрадавалася Анэля і кінулася да печы.

*Пастаўскі раён,*
*г. п. Варапаева.*




## Як хочаш

Муж пытаецца ў жонкі:

– Як называецца гэтая сукенка?

– Калі яна табе падабаецца, то называй, як хочаш, – адказвае тая.

## Не моднік

«Не такі я ўжо і стыляга», – падумалася мне, калі адзначыў 60 гадоў.

## Пячорныя людзі

Незадаволены наведвальнік у мужчынскай лазні абураецца:

– Хутчэй зачыняйце дзверы, пара выходзіць!

Нейкі жартаўнік крычыць у адказ:

– Мы – людзі пячорныя, пра дзверы нічога не чулі!

**Даслаў Аляксей БУЦЬКО,**
*г. Гродна.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 1 (1528), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 13.01.2016. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,34. Тыраж 1380 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Малюе Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.


















## Карцінная галерэя «Вожыка»

Валянцін ГУБАРАЎ, «Сціплае абаянне неразвітога сацыялізму, холст, алей.




**ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:**

Чым жыве кот і сабака?

Што прапала ў Валянціны і Змітрака?

З-за чаго не трэба доўга пакутаваць?

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

